# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

05.01.12-11.01.12 г.



**ВЫБАР БЕЛАРУСАЎ**



ЛЯЧЫЦЦА НЯПРАВІЛЬНА

СТАР. 4-5

**ВЯДОМЫЯ ЛЮДЗІ**

ЯК ЯНЫ СУСТРАКАЮЦЬ РАСТВА



СТАР. 6


# ДАСТАЮЧЫ ЧАРГОВЫ ЦВІК З ЯГАДЗІЦ

Стан нашага грамадства лепш за ўсё апісваць праз анекдоты.




*Апошні дзень не прыходзіць для нас, але…*

## …АЛЕ МОЖНА ТРЫВАЦЬ

Усім вядома байка пра беларуса, які тыдзень правісеў на шыбеніцы, а калі яго выцягнулі з пятлі, раптам ачуняў. На пытанне, як гэта магчыма, адказ быў такі: "Спачатку шыю трохі націрала, а потым прыцярпеўся".

Вось так нашы сучаснікі прыцярпеліся і да падзення сярэдняга заробку з 530 долараў у снежні 2010 да 280 у лістападзе 2011 года. У снежні 2011 незалежныя сацыёлагі правялі чарговае агульнанацыянальнае даследаванне грамадскай думкі. Адзін з галоўных каментараў да сённяшняй сітуацыі: "Жыць цяжка, але можна трываць". Такой думкі прытрымліваюцца 52,2% удзельнікаў апытання.

Больш за тое, рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі згодна НІСЭПД, размешчанаму ў Вільні, трохі павысіўся: з 20,5% у верасні да 24,9% у снежні. Чым тлумачыцца гэты рост, хай сабе і невялікі? Што такога станоўчага адбылося ўвосень?

> "Можна сабе ўявіць, як высокапастаўленыя чыноўнікі рагочуць над насельніцтвам, якое, дастаючы з ягадзіц чарговы цвік, здзіўляецца: "А мо так і трэба?".

Навідавоку адно: адносная нармалізацыя на валютным рынку. І прыгадваецца чарговы анекдот.

"Прыйшоў габрэй да рабіна і скардзіцца:

— Рэбе, так жыць цяжка… Грошай не хапае, кватэра маленькая, жонка лямантуе на пару з цешчай, дзеці плачуць...

Рабін раіць:

— Купі казу!

— Куды ж мне яшчэ каза да ўсяго гэтага?

— Купі казу!

*Заканчэнне на стар. 3*

**ЛІЧБЫ**

**ТАБЛІЦА 3. Размеркаванне адказаў на пытанне «Хто вінаваты ў цяперашнім крызісе ў Беларусі?», % (магчыма больш за адзін варыянт адказу)**

| Варыянт адказу | 09'11 | 12'11 |
|---|---|---|
| Вінаваты прэзідэнт | 61.2 | 53.7 |
| Вінаваты ўрад | 41.3 | 44.6 |
| Вінаваты парламент | 11.9 | 19.5 |
| Вінаваты ЗША | 16.3 | 13.8 |
| Вінавата Расія | 7.3 | 12.6 |
| Вінавата Еўропа | 12.0 | 11.9 |
| Вінаваты народ | 10.0 | 10.9 |
| Вінавата апазіцыя | 5.0 | 8.8 |
| Цяжка адказаць | 13.4 | 16.1 |

**НАВІНА**

## ДЗЯРЖПАЗЫКА НА 1 СНЕЖНЯ – 39,4% ВУП

За год яна вырасла на 242,3%.

Дзяржаўная пазыка Рэспублікі Беларусь на 1 снежня 2011 года складала 104,5 трлн рублёў і павялічылася ў параўнанні з пачаткам 2011 года на 74 трлн рублёў, або на 242,3%.

Як паведамляе Міністэрства фінансаў, рост дзяржаўнага доўгу ў беларускіх рублях у першую чаргу абумоўлены пераацэнкай замежнай дзяржпазыкі з прычыны дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў маі і кастрычніку 2011 года.

Суадносіны дзяржаўнай пазыкі да ВУП на 1 снежня 2011 г. склалі 39,4% і, па звестках Мінфіна, не перавысілі гранічнага значэння, устаноўленага праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011–2015 гады ў памеры 45%.

Замежная дзяржпазыка ў параўнанні з пачаткам года павялічылася на 1,913 млрд долараў, або на 20,2%, і склала 11,4 млрд долараў (97,9 трлн рублёў) пры ўстаноўленым ліміце 13 млрд долараў.

Паводле інфармацыі Мінфіна, рост замежнай дзяржпазыкі забяспечаны прыцягненнем незвязаных крэдытных рэсурсаў для папаўнення золатавалютных рэзерваў. Гэта аблігацыі на міжнародным фінансавым рынку (800 млн долараў), крэдыт Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС (800 млн долараў).

**БЕЛАПАН**

# НАКОЛЬКІ НАМ ХОПІЦЬ СТАБІЛЬНАСЦІ Ў 2012 ГОДЗЕ?

**БАРЫС ЖАЛІБА, ЭКАНАМІСТ:**
## “ІНФЛЯЦЫЮ ЎРАД НЕ ЎТАЙМУЕ”.

– Я не чакаю такога абвалу ў бягучым годзе: у сэнсе абвальнай дэвальвацыі беларускага рубля ў тры разы, як гэта было летась, і абвальнай інфляцыі, пры якой больш, чым у два разы павысіліся цэны. Бо колькі можна рабіць такія грубыя памылкі? Што можна чакаць ад нашага ўрада? Курс долара ўсё ж такі ўраўнаважыўся, і я думаю, што ён будзе трымацца ў раёне 9 тысяч, як запланаваў Нацбанк. У горшым выпадку ён перасягне мяжу ў 10 тысяч. А што тычыцца інфляцыі, то я не чакаю, што ўрад справіцца. Інфляцыя запланавана 21 працэнт, а павышаць узровень жыцця трэба, таму што збяднелі людзі, асабліва пенсіянеры і нізкааплатныя працаўнікі. І гэта значыць, што будзе ўключаны друкарскі станок, які стане дадаткова друкаваць банкноты. Ну і ў прагнозе прадугледжана недзе 7 трыльёнаў эмісійных, незабяспечаных крэдытаў. І, думаю, з інфляцыяй урад не справіцца. Хоць бы зменшыў яе на палову. Сёння яна 100. Калі б зменшылі да 50, то гэта быў бы поспех.

**СЯРГЕЙ БАЛЫКІН, ЭКАНАМІСТ:**
## “У НАС СТАБІЛЬНАЯ НЕСТАБІЛЬНАСЦЬ”.

– Калі браць палітычную сферу, то тут стабільнасць поўная. А эканоміка ў нас ніколі стабільнай не была – яе заўсёды даводзілася выцягваць. Калі паглядзець на курс беларускага рубля як на самы даступны паказчык, то з моманту яго ўвядзення ён пастаянна зніжаўся. І верыць у нашу стабільнасць могуць толькі беларусы: людзі сабе стварылі ілюзію стабільнасці, такога аазіса спакою. Калі няма даверу да сваіх грошай, то пра якую стабільнасць можа быць гаворка? Калі амерыканскі долар у нашай краіне карыстаецца большым аўтарытэтам, чым нацыянальная валюта. Нашаму прэзідэнту трэба даць узнагароду ад амерыканскага ўрада за ўмацаванне аўтарытэту амерыканскага долара сярод сваіх грамадзян. Гэта самы праамерыканскі прэзідэнт. Беларуса можна пазнаць у любой краіне – ён усё ў долары пералічвае. Аснова дзяржаўнага суверэнітэту – свая стабільная валюта.

Будзе расійская падтрымка, тады ўтрымаюць курс. Калі не, то праблема будзе вырашацца за кошт страўнікаў насельніцтва.

Стабільнасць у нас толькі ў адным – адна асоба пры ўладзе шмат гадоў вырашае праблемы, якія сама і стварае.

**МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА (ГОМЕЛЬ):**
## “БЕЛАРУСЫ НЕПАТРАБАВАЛЬНЫЯ”.

– У Беларусі заўсёды будзе стабільна, бо залог гэтай стабільнасці ў прыроднай непатрабавальнасці беларусаў. Апошнія гады беларусы ніяк не маглі паверыць свайму шчасцю – як добра яны жывуць! Для гэтага яны палец аб палец не ўдарылі.

Таму іх можна “апускаць” бясконца – бульба якнебудзь вырасце. Давесці іх да голаду і холаду немагчыма, яны да яго гатовы. Новыя машыны купляцца не будуць? Ну і халера з імі. Турцыя накрыецца? Ну і чорт з ёй, лепш бульбу вырошчваць. Яны, нават ездзячы ў Турцыю, бульбу ўсё роўна вырошчвалі. Гэта сведчыць аб тым, што не верылі яны ў сваю стабільнасць. Лад жыцця не мянялі. “Каб не было вайны…”. Для вайны ніякіх падстаў няма, а пажэрці яны сабе вырасцяць. Больш ім нічога і не трэба. Таму адсутнасць стабільнасці ніякая не пагроза. Грамадскіх свабод ім не трэба. Ім нават грошай не трэба. Ім не трэба нічога.

**АФІЦЫЙНА**

## УРАД УПЭЎНЕНЫ Ў СТАБІЛЬНЫМ РАЗВІЦЦІ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ Ў 2012 ГОДЗЕ

**Аб гэтым заявіў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч, перадае карэспандэнт БелТА.**

Нягледзячы на тое, што мінулы год быў няпростым для краіны, яна справілася з узніклымі праблемамі, дзякуючы палітычнай волі прэзідэнта і яго пастаяннай увазе да развіцця эканомікі, а таксама рабоце ўрада і іншых органаў дзяржкіравання, адзначыў прэм'ер-міністр. Стабілізавана сітуацыя на валютным рынку. «Думаю, што працэс стабілізацыі, у які ўвайшла Беларусь, будзе забяспечаны і ў 2012-м, і ў наступныя гады», — заявіў Міхаіл Мясніковіч.

Аналізуючы задачы, якія стаяць перад краінай у бягучым годзе, кіраўнік урада адзначыў, што яны складаныя, але рэальна выканальныя. У прыватнасці, ВУП павінен вырасці на 5,2—5,5%. У бягучым годзе ўраду таксама неабходна будзе знізіць узровень інфляцыі да 19—22%.

**ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ, БАРД:**
## “КАЛІ НЯМА ПАЧУЦЦЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ…”.

– Кожны чалавек з’яўляецца стабільнай сістэмай. І калі чалавек разумее, што не хапае грошай, то пачынае нешта большае рабіць. Калі большасць людзей страцяць веру ў нешта і апусцяць рукі – вось гэта будзе бяда. У характары нашага народа заўсёды было недзе падкруціцца, нешта прадаць, дзесьці падрабіць. Гэта і ёсць стабільнасць. Я баюся, каб порах не скончыўся. Гэта самае дрэннае. Тое, што я зараз назіраю, не радуе. Праедзьцеся ў метро ў Варшаве і Мінску – розніца вялікая. Вочы іншыя ў людзей. Калі ёсць у людзей пачуццё перспектывы, то гэта адчуваецца. А калі яго няма, то ніякімі газетамі і тэлебачаннем яго не дасягнеш. Вось і ўся стабільнасць. І як ні крычы з высокіх трыбун, што заўтра будзе яшчэ лепей, людзі адчуваюць, іх не падманеш.



*Грошы можна і падкідваць, але мацнейшымі ад гэтага яны не становяцца*

# ДАСТАЮЧЫ ЧАРГОВЫ ЦВІК З ЯГАДЗІЦ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Габрэй паслухаўся. Праз тыдзень прыходзіць і кажа:

— Рэбе, жыць зусім немагчыма. Грошай не хапае, кватэра маленькая, жонка лямантуе на пару з цешчай, дзеці плачуць, а тут яшчэ каза смярдзіць!

Рабін адказвае:

— Прадай казу!

— Рэбе, я штосьці не разумею: то вы казалі "купі казу", цяпер — "прадай казу".

— Прадай казу!

Габрэй зноў паслухаўся. Яшчэ праз тыдзень прыходзіць і кажа:

— Рэбе, я такі шчаслівы! Грошай не хапае, кватэра маленькая, жонка лямантуе на пару з цешчай, дзеці плачуць, але без казы так добра!

## УЛАДА РАНА РАДУЕЦЦА

Вось і беларусы цяпер шчаслівыя, таму што для таго, каб набыць долары, ужо не трэба ісці на "чорны рынак" або тыднямі стаяць у чарзе каля абменніка. Праўда, і каштуюць "баксы" ўжо не 3000, а 8500 беларускіх рублёў, але ж бяры, колькі хочаш. Штучна створаная праблема знікла, і настрой адразу палепшыўся.

Улада таксама павесялела. Пасля ўсіх леташніх фокусаў з эканомікай (дзве дэвальвацыі, інфляцыя больш як 100% за год і г.д.), якія прывялі да катастрафічнага зніжэння ўзроўню жыцця, можна было чакаць масавых пратэстаў. Аднак грамадства моўчкі праглынула горкія пілюлькі. Можна сабе ўявіць, як высокапастаўленыя чыноўнікі рагочуць над насельніцтвам, якое, дастаючы з ягадзіц чарговы цвік, здзіўляецца: "А мо так і трэба?".

Да кіраўніцтва краіны нават вярнулася фанабэрыстасць, бо дамоўленасці з Крамлём наконт зніжак на газ і нафту дазваляюць спадзявацца, што 2012 год будзе менш праблемным, чым папярэдні. Лукашэнка ўжо паспеў не адзін раз заявіць, што працягне сваю эканамічную палітыку — тую, якая давяла Беларусь да беспрэцэдэнтнага крызісу.

Аднак здаецца, што ўлада рана радуецца. Некаторыя вынікі апошніх месяцаў не даюць падстаў для аптымізму. З кастрычніка імпарт зноў заўважна перавышае экспарт. Таму даводзіцца чакаць, што чарговыя расійскія крэдыты ды субсідыі будуць праедзены досыць хутка, і на Беларусь абрынецца новая хваля крызісу. Больш моцная, чым папярэдняя.

Добра смяецца той, хто смяецца апошнім.

І ім дакладна будзе не Лукашэнка.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# КАЛЯДНЫ ГУСЬ – РЭДКАСЦЬ Ў ГОРКАХ

**У гэтым раённым цэнтры Магілёўскай вобласці гусі напярэдадні праваслаўнага Раства зніклі як клас. «Тут і цяпер» знайшла таму тлумачэнне.**

## АДСТУПАЕМ АД ДАЎНЯЙ ЗВЫЧКІ

У кожнай сям'і ёсць свае асаблівасці сустрэчы Каляд. Да прыкладу, у Галіны Ільінічны, прыватнага прадпрымальніка нашага райцэнтра, на калядным стале абавязкова павінен быць запечаны з яблыкамі гусь. За многія гады гэта стала традыцыяй сям'і. Гаспадар дома заўсёды сам разразае апетытную птушку і надзяляе кожнага ўдзельніка святочнага застолля кавалачкам. Але сёлета, па словах Галіны Ільінічны, відаць, прыйдзецца адступіць ад даўняй звычкі — у Горках гуся цяпер проста няма дзе купіць. Хутчэй за ўсё, з-за высокага кошту тушкі гэтай птушкі перасталі раскупляцца, і гандляры не рызыкуюць іх завозіць.

— Хацела гуся замяніць качкай, але іх таксама нідзе няма. Нават на базары не знайшла. Ну ды нічога, усё роўна гэта не сапсуе нам свята — я курыцу запяку. Куры, дзякуй богу, пакуль яшчэ не дэфіцыт, і па кошце даступныя, — не маркоціцца мая суразмоўца.

## І 12 ТРАДЫЦЫЙНЫХ СТРАЎ

Сям'я Віктара Сяргеевіча, работніка аднаго з мясцовых саўгасаў, сустракае свята Раства нават больш урачыста, чым Новы год.

На Куццю ўсе збіраюцца ў вёсцы ў пажылых бацькоў, рыхтуюць адно аднаму падарункі. На стале абавязкова 12 традыцыйных страў, адна з якіх — рысавая каша з разынкамі.

— А пад стол мы звычайна кладзём крыху саломы. Мой прадзед, цяпер нябожчык, казаў, што так трэба. Гэта сімвал Раства Хрыстова і дастатку ў доме. Калі я быў маленькі, мы, дзеці, яшчэ і калядаваць пасля застолля хадзілі. Зараз гэты звычай амаль забыты, вельмі рэдка хто ходзіць, — падзяліўся Віктар Сяргеевіч.

## ДВА СВЯТЫ ВЫТРЫМАЦЬ МОЖА НЕ КОЖНЫ

А некаторыя ў нашым горадзе Каляды зусім не сустракаюць. Два святы запар вытрымае далёка не кожны кашалёк, асабліва ў гэтым годзе. Прадаўцы цэнтральных гарадскіх супермаркетаў кажуць, што народ сёння купляе толькі самыя неабходныя прадукты — хлеб, алей, малако, пяльмені. Людзі павыдаткоўваліся, а заробкі даюць у нашым горадзе недзе пасля дзясятага чысла.

Гады савецкай улады таксама паўплывалі: у многіх сем'ях традыцыі сустракаць Каляды проста няма. Духоўнае свята тады падмянілі свецкім, і да гэтага часу некаторыя дзеці нічога не ведаюць пра Калядную зорку.

> «Гады савецкай улады таксама паўплывалі: духоўнае свята падмянілі свецкім, і сёння некаторыя дзеці нічога не ведаюць пра Калядную зорку».

Хоць трэба адзначыць, што калядныя службы ў храмах горада з кожным годам збіраюць усё больш і больш вернікаў. Шмат людзей наведваюць храм і на Вялікдзень, і на Вадохрышча, прыводзяць з сабой дзяцей. У сувязі з гэтым па просьбе вернікаў і часткова на іх ахвяраванні ў Горках нядаўна адкрыўся яшчэ адзін праваслаўны храм. Так што ёсць надзея, што духоўныя традыцыі ў нас паступова адродзяцца.

**ГАЛІНА БУДНАЯ**



*Аўууу, дзе ты, гусь?*

*Працяг тэмы на стар. 6*

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ НЕ ЛЕЧАЦЦА

**Уздыму захваральнасці на вострыя рэспіраторныя інфекцыі, якія традыцыйна гуляюць па Беларусі ў студзені-лютым, медыкі чакаюць літаральна ў любы момант.**

Паліклінікі, бальніцы, аптэкі рапартавалі ў Міністэрства аховы здароўя аб гатоўнасці да "грыпознага сезона". А вось ці гатовы да яго патэнцыйныя хворыя?

Многія з прыказкай "ды гары яно гарам" лечацца наяўнымі сродкамі з дамашняй аптэчкі або ўвогуле спадзяюцца, што само пройдзе.

Будзем шчырымі: хварэць нікому з нас не падабаецца. Змарнаваць жа ў паліклініцы некалькі дзён, абзваніць і аббегчы мноства аптэк у пошуках патрэбных лекаў і аддаць за іх добра калі "ўсяго" тысяч 100 – такая альтэрнатыва выклікае яшчэ менш імпэту. Таму многія з прыказкай "ды гары яно гарам" лечацца наяўнымі сродкамі з дамашняй аптэчкі або ўвогуле спадзяюцца, што само пройдзе.

Чаму беларусы не любяць ці не ўмеюць лячыцца па правілах, спрабавала разабрацца "Тут і цяпер", распытаўшы як медыкаў, так і саміх пацыентаў.

## ПАЦЫЕНТЫ З ПРЭТЭНЗІЯМІ

З некалькіх дзясяткаў апытаных чалавек амаль усе прызналіся, што адкладваюць візіт у паліклініку да апошняга. "Бо марудна і моташна", – дадавалі многія. *"Апошнім разам я правёў у чарзе да тэрапеўта дзве з паловай гадзіны, і гэта пры тым, што прыйшоў за 30 хвілін да пачатку прыёму і ў чарзе быў*



*Такія доктары нам не патрэбныя*

*ужо восьмым!* – прыгадвае пенсіянер **Анатоль Шаліма**. *– А што ў выніку? Маладая доктарка паведаміла, што ў мяне абвастрэнне хранічнага бранхіту, аб чым я і без яе ведаў, і выпісала таблетак на 150 тысяч – без усякай гарантыі, што тыя таблеткі дапамогуць…".*

*"Кожны візіт у паліклініку – гэта цэлая эпапея,* – пагаджаецца з папярэднім прамоўцам выкладчык **Віктар Мароз**. *– Як у тым мультфільме пра Прастаквашына: спачатку колькі гадзін у чарзе да тэрапеўта сядзіш, каб атрымаць накіраванне на аналізы, потым столькі ж – у заблытанай чарзе на здачу крыві ды флюараграфію, потым зноў да тэрапеўта, дзе высвятляецца, што твае аналізы недзе згубілі і "можа, вы пашукаеце самі?". Калі ў выніку яшчэ і лісток непрацаздольнасці не дадуць, то для работадаўца я – прагульшчык, якога варта пакараць рублём. Можна, безумоўна, без чаргі запісацца ў камерцыйны медцэнтр, але там адна кансультацыя больш як 50 тысяч каштуе, таму часта не находзішся".*

*"Для мяне браць лісток непрацаздольнасці – надта дарагая раскоша,* – скардзіцца маці дваіх дзяцей **Таццяна Архіпава**. *– І гаворка нават не пра тое, колькі грошай практычна штомесяц ідзе на лекі і колькі я губляю, дакладней, банальна не зарабляю, седзячы дома. Начальнік ясна даў зразумець: частыя бальнічныя ў нас не вітаюцца. Ён чалавек малады, несямейны, бяздзетны – хіба зразумее, што такое тыдзень хадзіць у дзіцячы садок, тыдзень хварэць або "прынесці" з таго ж садка кішэчную інфекцыю для ўсіх астатніх? Звольніць мяне па заканадаўстве начальнік не можа, а вось стварыць невыносныя ўмовы на працы можа вельмі проста. Таму я стараюся пераходзіць хваробу на нагах, а з малымі пакідаць іншых – бабулю або мужа".*

Сярод іншых распаўсюджаных скаргаў пацыентаў – фармалізм і абыякавасць медработнікаў нават пры платным прыёме, навязванне канкрэтных прэпаратаў, даражэйшых за беларускія аналагі ў некалькі разоў, апраўданні кшталту "ў мяне зарплата маленькая" і вымаганне хабару малодшым медперсаналам.

Але на ўласныя памылкі, як гэта часта бывае, пацыенты не зважаюць. Затое іх добра бачаць урачы, якіх мы папрасілі падзяліцца назіраннямі з другога боку барыкад.

## УРАЧЫ З УГАВОРАМІ

*"На першым месцы – абыякавасць саміх пацыентаў да ўласнага здароўя. Многія цягнуць да апошняга, а да ўрача прыходзяць, калі сітуацыя ўжо ахавая, што называецца, ратуйце,* – заўважае галоўны ўрач 34-й сталічнай цэнтральнай раённай паліклінікі **Дзмітрый Шаўцоў**. *– Мы прызвычаіліся думаць, што ВРВІ, грып можна вылечыць самастойна – ведаеце ж гэтае меркаванне, "калі грып лячыць, то ён пройдзе за тыдзень, калі не лячыць – за 7 дзён"? І мала хто ведае, што калі за першыя тры дні хваробы сітуацыя не паляпшаецца, то інфекцыя спускаецца ніжэй і з'яўляюцца бранхіты ды іншыя ўскладненні. У пажылых людзей рызыка ўскладненняў большая – у сярэднім на аднаго такога пацыента прыпадае 3—3,5 дыягназу. Вірус спрацоўвае як "пускавы механізм" для многіх хранічных хвароб, садзейнічае ўздыму артэрыяльнага ціску, лакальнаму абязводжванню арганізма… Тут без дапамогі ўрача ўжо ніяк не абысціся. Увогуле, нічога страшнага ў тым, каб лішні раз пракансультавацца ва ўрача, няма. Магчыма, вам нават лісток непрацаздольнасці не спатрэбіцца, і атрымаецца ўсяго за пару дзён вярнуцца ў нармальны стан".*

Што да доўгіх чэргаў, то для істотнай эканоміі часу наведвальнікам больш як 20 мінскіх паліклінік прапанавана паслуга "асабісты тэрапеўт". Заключыўшы з установай дамову на год, пацыент не менш як 15 разоў наведвае ўрача-тэрапеўта, атрымлівае кансультацыі вузкіх спецыялістаў, здае аналізы, робіць прышчэпкі і праходзіць комплекс неабходных абследаванняў у зручны для яго час. Праўда, і каштуе гэтая паслуга нават для грамадзян Беларусі адчувальна – ад

**"Мінімальны набор, які звычайна выкарыстоўваецца для лячэння ВРВІ, – гарачкапаніжальны сродак, сродак ад кашлю і/ці насмарку, імунастымулюючы, супрацьвірусны – па цяперашніх цэнах у сталічных аптэках каштуе ад 40 да 120 тысяч беларускіх рублёў".**

**ДА ВЕДАМА**

**Паводле медыцынскай статыстыкі, да 90% усіх інфекцыйных захворванняў – гэта ВРВІ, на якія хоць пару разоў у жыцці хварэюць абсалютна ўсе людзі. Найбольш масавым застаецца грып, які штогод ахоплівае 20–30% дзяцей і 5–10% дарослых (па Мінску гэта 10% і 5% адпаведна). Эканамічная шкода ад захворванняў на грып арыенціровачна ацэньваецца спецыялістамі на суму больш як 1 мільён долараў на 100 тысяч насельніцтва.**

# ПРАВІЛЬНА

850 тысяч да 2,2 мільёна беларускіх рублёў (у камерцыйных медцэнтрах, заўважым, яшчэ больш – 2,5–4 млн рублёў).

*"Безумоўна, каб радзей хварэць, неабходна прафілактыка,* – працягвае Дзмітрый Шаўцоў. – *Пажадана не пераахалоджвацца, трымаць ногі ў цяпле і сухасці, часцей мыць рукі, пазбягаць месцаў, дзе збіраюцца ў вялікай колькасці людзі (у памяшканнях або транспарце). На гэтыя элементарныя правілы мы часта не зважаем. Гэтак жа, як на неабходнасць сезоннай прышчэпкі супраць грыпу. Нават сёлета, нашто ўжо была маштабная кампанія вакцынацыі, але прышчэпкі зрабілі толькі 30% насельніцтва, у той час як у Заходняй Еўропе гэтая лічба дасягае 60%. Нашы людзі звычайна мяркуюць – ай, пранясе. Як правіла, не праносіць, і ўжо напрыканцы сезона ВРВІ, у сакавіку, чалавек хварэе на грып".*

*"А яшчэ мяне вельмі "радуе" шматлікая катэгорыя пацыентаў, якія лепш за ўрача ведаюць, чым і як ім трэба лячыцца,* – дапаўняе калегу фітатэрапеўт **Людміла Мароз**. – *Часам хочацца ўголас крычаць: людцы, ну адключыце вы ўжо інтэрнэт і ўключыце мозг! Якое гаспадарчае мыла ў нос пры насмарку?! Якія расціранні гарэлкай пры высокай тэмпературы?! Не слухайце бабу Клаву з суседняга пад'езда, унучатаму пляменніку якой дапамаглі вось такія цудоўныя антыбіётыкі, – слухайце ўчастковага ўрача, які пяты раз паўтарае, што вірусная інфекцыя антыбіётыкамі не лечыцца! Бо ўрач не супраць пацыента павінен змагацца, а разам з ім – супраць хваробы!"*

*"Я прымаю толькі адзін від самалячэння – аказанне экстраннай сама- ці ўзаемадапамогі, калі пры няшчасным выпадку трэба спыніць крывацёк, сардэчніку даць валідол пад язык і г.д. Усё астатняе да дабра не вядзе,* – пацвярджае **Дзмітрый Шаўцоў**. – *Можна нават ліпавай гарбатай атруціцца альбо зарабіць сабе алергічную рэакцыю, асабліва калі набываць зёлкі не ў аптэцы, а з рук ці нарыхтоўваць самастойна".*

Па назіраннях спецыяліста, які мае больш як 15-гадовы ўрачэбны стаж, толькі 30% пацыентаў (пераважна жанчыны) хварэюць правільна і лечацца дысцыплінавана, выконваючы ўсе назначэнні дактароў. Астатнія альбо завяршаюць курс лячэння раней за прадпісаны час, альбо пакідаюць лекі "ў запас" і потым ужо самі сабе іх "выпісваюць" альбо ўвогуле ігнаруюць рэкамендацыі доктара.

## ЛЕЧЫМ І ЛІЧЫМ

У чым без спрэчак сыходзяцца абодва бакі, дык гэта ў недахопе кваліфікаваных кадраў (у Мінску практычна ніводная паліклініка не ўкамплектавана ўрачамі-спецыялістамі, лабарантамі і медсёстрамі на 100 працэнтаў) і ў дарагавізне лячэння (за мінулы год усе лекі, якія набываюцца за валюту, падняліся ў цане больш чым утрая). Прыкладам, мінімальны набор, які звычайна выкарыстоўваецца для лячэння ВРВІ, – гарачкапаніжальны сродак, сродак ад кашлю і/ці насмарку, імунастымулюючы, супрацьвірусны – па цяперашніх цэнах у сталічных аптэках каштуе ад 40 да 120 тысяч беларускіх рублёў. І надалей, паводле слоў правізараў, будзе толькі даражэць. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя і пытанне зусім не да пацыентаў, не да ўрачоў і нават не да вытворцаў лекаў.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**



# ТОП-7: ХТО ВЫЙГРАЕ І ПРАЙГРАЕ АД НОВАЙ БВ?

Бюджэтнікі радуюцца, патэнцыяльныя правапарушальнікі ў журбе, а прадпрымальнікі атрымаюць ад новаўвядзення і плюсы, і мінусы.

Рэзкі рост базавай велічыні (з 35 000 да 100 000 рублёў), прымеркаваны да 1 красавіка, адаб'ецца на кожным беларусе: і на тых, хто знаходзіцца на дзяржаўнай службе, і на тых, хто мае ўласную справу. І нават на беспрацоўных.

«Наша Ніва» склала рэйтынг тых, хто застанецца ў выйгрышы ад рэформы, а хто, наадварот, прайграе.

**У ПЛЮСЕ:**

**1. Тыя, хто атрымлівае бюджэтныя выплаты**

Базавая велічыня — адзін з паказчыкаў, да якіх фармальна прывязваецца памер сацыяльнай дапамогі. Гаворка ідзе пра пенсіі, стыпендыі, дапамогу беспрацоўным, даплаты настаўнікам і ўрачам, інвалідам, шматдзетным сем'ям і іншым катэгорыям беларусаў. Аднак не варта чакаць, што ўсе выплаты з 1 красавіка вырастуць утрая. Калі рост і будзе, то, хутчэй, нязначны.

**2. Прадстаўнікі творчых прафесій**

Ганарары за творы мастацтва вырастуць утрая. За апошні час мінімальны заробак пастаянна павялічваўся, а ганарары, прывязаныя да базавай велічыні, не змяняліся. Застаючыся на ўзроўні 2007 года, яны ніяк не стымулявалі да плённай працы.

**3. Прадпрымальнікі**

Спрашчэнне працы — адна з пераваг, якія займеюць з 1 красавіка ўладальнікі дробнага бізнесу. Напрыклад, атрымліваючы штомесяц 100 мільёнаў рублёў, індывідуальны прадпрымальнік не павінен будзе адкрываць разліковы рахунак у банку. Зараз такі ліміт складае 35 мільёнаў рублёў. А вось наяўных грошай ад банка можна будзе атрымаць больш — да 30 мільёнаў рублёў за дзень. Аднак усе «плюсы» для прадпрымальнікаў нівеліруюцца істотным мінусам, звязаным з арэнднай платай (глядзі ніжні рэйтынг).

**У МІНУСЕ:**

**1. Прадпрымальнікі**

Некалькі гадоў таму арэндная плата за памяшканні вылічалася ў еўра. Курс рэзка павышаўся, таму было вырашана прывязаць арэнду да базавай велічыні — меркавалася, што яна будзе павялічвацца больш павольна. У выніку праз некалькі гадоў зацішша арэндная плата скокне ўгару адразу ўтрая. Прадпрымальнікі будуць вымушаны перакласці свае выдаткі на пакупнікоў. Таму ўсіх спажыўцоў паслуг таксама можна ўмоўна назваць пацярпелымі.

**2. Правапарушальнікі**

Да базавай велічыні прывязаны ўсе штрафы. Напрыклад, цяпер пакаранне за безбілетны праезд будзе складаць 20 тысяч рублёў (а не 7 000, як сёння). Некаторыя штрафы нарэшце будуць даволі значнымі. За ўжыванне алкагольных напояў можна заплаціць нават 1,5 мільёна рублёў. «Падаражэе» і ўдзел у акцыях пратэсту — прыдуманая нецэнзуршчына можа каштаваць да 3 мільёнаў рублёў.

**3. Студэнты**

Адна рука дае, другая забірае. Магчымае павышэнне стыпендый кампенсуецца падаражаннем пражывання ў інтэрнатах. У залежнасці ад ступені камфорту пражыванне ў іх каштуе 1–3 базавыя велічыні. З красавіка гэта будзе складаць 100—300 тысяч рублёў.

**ЯГОР МАРЦІНОВІЧ, NN.BY**

# ЯК ВЯДОМЫЯ ЛЮДЗІ СУСТРАКАЮЦЬ РАСТВО

Ходзяць яны ў калядную ноч на святочнае богаслужэнне або глядзяць тэлетрансляцыю службы? Ці рыхтуюць адмысловыя калядныя стравы? Як выбіраюць падарункі для блізкіх? І чым гэтае Раства будзе для іх адрозніваецца ад папярэдніх?



У нашым Раству шмат засталося яшчэ ад тых Каляд

Пра ўсё гэта даведвалася "Тут і цяпер".

## НІНА ЛАМАНОВІЧ СУСТРАКАЕ КАЛЯДЫ ПА-ПОЛЬСКУ

*Галоўны хармайстар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета народная артыстка Беларусі* **Ніна Лpopмановіч** *каталічка. Каляды яна ўжо сустрэла, а цяпер рыхтуецца адзначаць Стары новы год.*

– Што тычыцца мяне самой, то звычайна Каляды сустракаю ў Польшчы – у мяне там дачка жыве, – распавядае Ніна Іосіфаўна. – А ў палякаў сустрэча Раства – гэта сапраўдны культ! У Польшчы многія нават не вельмі заможныя людзі наймаюць гатэль і сем'ямі сустракаюць там Каляды. У кошт гатэля ўваходзяць калядная вячэра, канцэрт. Каляды – гэта чыста сямейнае свята. У гэты дзень не прынята хадзіць у госці. З раніцы ідуць у храм, затым дораць падарункі. А Новы год у Польшчы, ды і ва ўсёй Еўропе практычна не сустракаюць – так, шпуляюць петарды...

У нас жа ў тэатры ёсць традыцыя сустракаць Стары новы год. Мы цэлую ноч гуляем: ладзім вялікі канцэрт, баль і ўсю ноч танчым. Людзі прыходзяць у бальных сукенках, а напярэдадні рэпеціруюць танцы – па панядзелках ходзяць у спецыяльную школу, дзе прафесіяналы "ставяць" ім танец. Раней мы рабілі калядны канцэрт – яшчэ пры Валянціне Елізар'еву такое было. А цяпер ладзім толькі баль, як у Дрэздэнскай оперы. А яшчэ ў нашым тэатры напрыканцы года праходзіць традыцыйны Міжнародны калядны оперны фестываль.

## ЭЛЕАНОРА ЯЗЕРСКАЯ ПОЙДЗЕ Ў ЦАРКВУ

*Вядомая тэлевядучая свецкая ільвіца* **Элеанора Язерская** *плануе ў гэтым годзе наведаць калядную службу. Па словах тэледзівы, ёй ужо даслалі адпаведнае запрашэнне.*

– Каляды для мяне, безумоўна, свята, але яно з'явілася ў маім жыцці тады, калі мне ўжо было за 30 гадоў, – кажа Элеанора. – Таму што ў савецкія часы Каляды амаль ніхто не адзначаў. І для многіх савецкіх людзей, якія сталі выязджаць на Захад, было дзіўна, што ў Еўропе Новы год менш значнае свята, чым Каляды.

Я праваслаўная. У царкву, магчыма, сёлета пайду на калядную службу. Адмысловых страў да Каляд не рыхтую. Я наогул у гэтым сэнсе люблю ламаць традыцыі. Напрыклад, сёлета традыцыйны навагодні салат "Аліўе" зрабіла не 31 снежня пад «Іронію лёсу», а 1 студзеня ў гадзіну дня...

## СЯРГЕЙ КАЛЯКІН АБЫЯКАВЫ ДА ПЕРАДКАЛЯДНАЙ МІТУСНІ

*Старшыня Беларускай партыі левых "Справядлівы свет"* **Сяргей Калякін** *не прызнае такое свята, як Каляды.*

– Мяне не адарыў Бог дарам веры, – адкрыта прызнае Сяргей Іванавіч. – Я і не каталік, і не праваслаўны. Традыцыі сустракаць Каляды ў нашай сям'і не было і няма. У царкву не хаджу, па тэлевізары службы не гляджу, да перадкаляднай мітусні стаўлюся цалкам спакойна. Але пры гэтым паважаю пачуцці тых, хто адзначае гэтае свята. А для мяне гэта проста яшчэ адзін выхадны. Дарэчы, у гэтым годзе амаль усе святы прыпадаюць на выхадныя дні...

## ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ АДЧУВАЕ НАЦІСК ЗМРОЧНАЙ АТМАСФЕРЫ

*Артыст і бард* **Віктар Шалкевіч** *у ноч на Божае нараджэнне касцёл амаль ніколі не наведвае.*

– Я ўжо сустрэў каталіцкае Раства, – гаворыць артыст. – Мне падаецца, што гэтае свята настолькі традыцыйнае, што правілы яго сустрэчы ніколі не мяняюцца. Да таго, што робіцца ў хаце перад Раством, я маю мала дачынення – усім займаюцца жонка і дачка. Мая справа – набыць добрыя падарункі і пакласці іх пад ёлачку.

У царкву ходзім. Алё пакольні я заняты такой мудрагелістай справай, як шоу-бізнес, то паяўляюся ў хаце толькі напярэдадні Раства, таму звыкла гляджу богаслужэнне па тэлевізары. Касцёл наведваю, але па патрэбе сэрца.

Нягледзячы на крызіс, для мяне на гэтае Раства асабліва нічога не змянілася. Падарункі рабіў, і яны былі не горшыя, чым у мінулыя гады.

Ведаеце, чым адрознівалася для мяне гэтае Раства ад папярэдніх? Відаць, агульным грамадскім настроем. На мой погляд, адсутнасць сапраўднай зімы, снегу і наяўнасць досыць змрочнай атмасферы ў грамадстве нейкім чынам уздзейнічае на кожнага з нас...

## ВЯЧАСЛАЎ ХАРАНЕКА ЗАКЛІКАЕ РАДАВАЦЦА КОЖНАЙ ХВІЛІНЕ

*Шматразовы рэкардсмен свету па гіравым спорце, аўтар эксклюзіўнай сілавой шоу-праграмы, у якую ўваходзяць сусветныя трукі з гірамі і піўнымі бочкамі,* **Вячаслаў Харанека** *імкнецца хадзіць у царкву прыкладна раз у тыдзень.*

– Я сам праваслаўны, але для мяне Бог адзін, – кажа Вячаслаў Васільевіч. – Не разумею гэтага падзелу на каталікоў, праваслаўных... Імкнуся хадзіць у царкву раз у тыдзень. Мо гэта і няправільна, але я звычайна наведваю царкву тады, калі там людзей паменш. Адна справа паглядзець або паслухаць службу, і зусім іншая – пагутарыць са сваімі памерлымі сваякамі, пагаварыць з Богам. Калі ў храме шмат людзей, то гэта мяне адцягвае, а думкі павінны быць сканцэнтраваны.

Па тэлевізары набажэнствы не гляджу. Самае галоўнае, на мой погляд, каб у кожнага чалавека вера ў Бога была ўнутры, у сэрцы. Я наогул не разумею, як можна жыць без веры?

Страў асаблівых на Раства не гатуем. Я, дарэчы, ем усё, і ніколі ў гэтым сэнсе не прападу, хоць, прызнаюся, люблю смачненька паесці. Хаця сам гатаваць не ўмею. Калі жыццё прымусіць, магу, вядома, нешта зрабіць, каб не памерці з голаду, але лічу, што для таго, каб гатаванне прыносіла радасць, таксама павінен быць кулінарны талент. У мяне ж такога няма...

Мне здаецца, любыя Каляды, як і кожны дзень нашага жыцця, павінны чымсьці адрознівацца ад папярэдніх. Напрыклад, я кожную раніцу дзякую Богу за новы дзень жыцця.

**МАРЫНА МІТ**

“Тут і цяпер” паспрабавала разабрацца, чаму так здарылася ў населеным пункце, які традыцыйна называюць горадам гранітаздабытчыкаў.

# МІКАШЭВІЧЫ – ГОРАД “НАРКАЗДАБЫТЧЫКАЎ”?

## НАПАЎНЯЕМ НЕ ТОЛЬКІ МЯСЦОВЫ БЮДЖЭТ

У Мікашэвічах Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці знаходзіцца адно з буйных прадпрыемстваў, дзе здабыча граніта вядзецца адкрытым спосабам, – РВУП “Граніт”. У свой час сюды з’язджаліся працаўнікі з усяго былога Савецкага Саюза.

Цяпер жа Мікашэвічы з’яўляюцца лідэрам не толькі па напаўненні сродкамі мясцовага бюджэта, але і па такой сумнай навале як наркаманія. Атрымаць так званы «кайф» тут не праблема. Некаторыя вырошчваюць дамашнія «плантацыі» канопляў, а ў некаторых проста ёсць «добрыя» знаёмыя. І хоць захоўванне і распаўсюджванне наркатычных рэчываў караецца законам, гэта - як забаронены плод...

У раённым наркалагічным кабінеце стаіць на ўліку 55 чалавек, 37 з іх – з Мікашэвічаў. Аднак гэта афіцыйныя лічбы. А яшчэ колькі такіх, залежных, хто не лічыць сябе наркаманам. А колькі тых, хто шпрыцам ад ВІЧ-інфіцыраванага атрымаў не толькі дозу наркотыка, але і невылечны вірус! І гэта, як правіла, маладыя людзі ва ўзросце да 35 гадоў.

> “Падлеткі з добранадзейных сем'яў таксама могуць трапіць пад наркатычны ўплыў. ...Бацькі заняты бізнесам, а дзіця жыве сам-насам са сваімі думкамі”.

**З 54 выпадкаў ВІЧ/СНІД, зарэгістраваных ў Лунінецкім раёне на 1 студзеня гэтага года, 40 прыходзіцца на Мікашэвічы. І заразіліся гэтыя людзі ў большасці сваёй праз ін’екцыйнае ўвядзенне наркатычных сродкаў. Спецыялісты гавораць: рэальная колькасць ВІЧ-інфіцыраваных утрая большая.**

Як паведаміў старшы следчы следчага аддзялення папярэдняга расследавання Дзмітрый Насеня, на працягу 2011 года Лунінецкім РАУС узбуджана 27 крымінальных спраў (20 з іх — у адносінах да жыхароў Мікашэвіч) па артыкуле 328 КК РБ «Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх прэкурсораў». З гэтай колькасці злачынстваў 3 адносяцца да катэгорыі цяжкіх. Узрост тых, хто ўжо асуджаны, і тых, хто яшчэ чакае суда па справах аб наркотыках, складае 20—25 гадоў.

У 2011 годзе выкрыта 2 наркапрытоны — у Лунінцы і Мікашэвічах. У дачыненні да хлопца з Мікашэвіч узбуджана крымінальная справа па арт. 329 КК РБ за вырошчванне наркатычных сродкаў (плантацыю канопляў ён развёў каля дома).

Супрацоўнікі міліцыі таксама выкрылі канал пастаўкі амфетаміну. Гэтым псіхатропным рэчывам жыхар Мікашэвіч забяспечваў увесь раён. Падазроным і асуджаным пагражаюць вялікія тэрміны зняволення. Яны зламалі не толькі свае лёсы, але і лёсы тых, каго забяспечвалі згубным зеллем.

## “ДОРОГУ ОСИЛИТ ИДУЩИЙ”

**Нэлі Рыгораўна Соц** 16 гадоў працуе псіхолагам у Мікашэвіцкай СШ №3.

**— Ці звяртаюцца да вас з праблемай наркаманіі падлеткі? — цікаўлюся.**

— Не, звычайна самі яны не звяртаюцца, — адказвае псіхолаг. — Часам настаўнікі і вучні заўважаюць змены ў паводзінах і абліччы тых, каго вучаць або з кім вучацца. Як правіла, падазрэнні наконт ужывання наркатычных сродкаў апраўдваюцца. Праводзім гутаркі, ідзём дадому, назіраем за падлеткам і яго сям'ёй.

**— Чаму, на вашу думку, падлеткі “падсаджваюцца” на іголку?**

— Па-першае, па прычыне ўхілення бацькоў ад выхавання дзяцей.

Удумайцеся: 40% нашых першакласнікаў выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях. Часцей за ўсё гэта сем'і, дзе няма бацькаў. Уплываюць на выхаванне і ўмовы пражывання дзіцяці, недахоп увагі. Між тым яму, як расліне, патрэбны догляд і цяпло. І калі дзіцяці гэтага не хапае першапачаткова, то ў ім могуць назапашвацца злосць, крыўда.

Па-другое, часам бацькі не могуць навучыць дзяцей самаму элементарнаму — правілам асабістай гігіены. У дзіцяці паніжаецца самаацэнка.




*Такіх прычын, канешне, больш, але сутнасць не мяняецца*

Ужо пасля заканчэння пачатковай школы можна вызначыць, які статус мае дзіця: адкінутага, прынятага; таго, якім грэбуюць, або лідара. Дзіцяці трэба дапамагчы самазацвердзіцца, даць зразумець, што яно — самае любімае, самае прыгожае. Бо ўмовы, у якія яно трапіла, у далейшым могуць стаць адлюстраваннем яго самога.

Па-трэцяе, яшчэ адной немалаважнай прычынай з'яўляецца падлеткавы ўзрост — этап сталення, станаўлення асобы. У гэты перыяд падлеткам хочацца выглядаць дарослымі, “крутымі”, яны падтрымліваюць тыя нормы і каштоўнасці, якія характэрны ў іх групоўках. Падлеткі з добранадзейных сем'яў таксама могуць трапіць пад наркатычны ўплыў. Бацькі заняты бізнесам, а дзіця жыве сам-насам са сваімі думкамі.

## НЕ ЎСЕ БАЦЬКІ – ПРЫКЛАД

Сем’і, якія сутыкнуліся з праблемай наркаманіі, падпадаюць пад негатыўны штамп грамадства. І хоць кажуць, што праблемы павінны з’ядноўваць сям'ю, часта гэтага не адбываецца. Змагацца з цяжкасцямі без падтрымкі блізкіх намнога складаней. Вось што здарылася з сям'ёй майго знаёмага (назавём яго **Андрэй**).

— Яшчэ дзіцем я ўспрымаў той факт, што мой бацька наркаман, вельмі хваравіта, агрэсіўна, — распавёў Андрэй. — Жудасна было бачыць, як пакутуе мама. Вечныя сваркі бацькоў, часта даходзіла да боек. Каб дастаць грошы на дозу, бацька выносіў з хаты ўсё, што мог вынесці... Не ведаю, ці былі ў яго наогул бацькоўскія пачуцці. Ён не бачыў нічога і нікога, акрамя сябе і сваіх жаданняў. Я рэдка з ім гаварыў, аднак, калі такі дзень і здараўся, ён лёгка мог забыць пра мяне... Калі бацька быў пад «кайфам», нам было складана хавацца ад яго. Часам ён проста выбіваў дзверы, і ўсё паўтаралася зноў: сваркі, крыкі... І як бы гэта ні было дзіўна, але нават блізкія адвярнуліся ад нас.

Зараз непрыемна ўспамінаць аб тым, што было. У душы засталася толькі дзіцячая крыўда.

У будучыні я не паўтару тых ж памылак, што і мой бацька”.

Андрэй упэўнены, што зможа абараніць сваю ўласную сям’ю ад наркатычнай навалы.

**КСЕНІЯ РАШЫДАВА**

# ІЛЮЗІЯ АДКРЫТАГА ТЫПУ

**У Беларусі налічваецца каля пяцідзесяці выпраўленчых устаноў адкрытага тыпу. Адна з іх размяшчаецца ў гарадскім пасёлку Круглае Магілёўскай вобласці. Яна разлічана на ўтрыманне 100 асуджаных.**


*Ілюзія яна і ёсць ілюзія*

## НЕ ТУРМА, А СТУДЭНЦКІ ІНТЭРНАТ

Зараз жа ў Круглянскай ВУАТ № 46 адбываюць пакаранне больш за 80 чалавек. Таму, відаць, круглянская раённая газета "Сельскае жыццё" смела параўноўвае ўмовы жыцця асуджаных у гэтай установе са студэнцкім інтэрнатам — маўляў, пакоі тут размешчаны па двух баках калідора, на кожным паверсе ёсць кухня з плітой і сталом. У двухпавярховым будынку ўстановы ёсць таксама пакой для спатканняў і пакой пасляпрацоўнага адпачынку з невялікай бібліятэкай. У памяшканнях для асуджаных няма ніякіх "нар", яны спяць на добрых ложках ("палутарках"), у пакоях стаяць тумбачкі, крэслы, сталы, шафы і нават тэлевізары. Як піша "Сельскае жыццё", зняволеным у пакоі дазволена мець практычна ўсё, што не супярэчыць патрабаванням бяспекі: электрычныя чайнікі, мікрахвалеўкі, ноутбукі. Карацей, амаль што санаторый…

> "Пастаянна праводзяцца ператрусы і "шмоны", як прафілактычныя, так і знянацку ("па поўнай праграме")".

Аднак пры больш падрабязным знаёмстве з ВУАТ № 46 гэтае ўражанне адразу ж знікае. На пакоях для асуджаных вісяць таблічкі з прозвішчамі пражываючых, на дзвярах — невялікае акенца, праз якое міліцыянеры рэгулярна правяраюць, чым заняты зняволеныя, ці не парушаюць яны правілаў пражывання (іх сэнс, дарэчы, зводзіцца да аднаго слова — "забаронена"). Дзверы ў пакой можна зачыніць толькі звонку (як, у прынцыпе, і адчыніць). Жывуць зняволеныя па строгім распарадку: а 6-й раніцы ў іх пад'ём, праз 15 хвілін — праверка з агульным пастраеннем, пасля гэтага ўсе арганізавана рухаюцца на працу. Па прыбыцці з працы зняволеных зноў правяраюць, і робяць гэта яшчэ раз, а 21-й, перад агульным адбоем. Пастаянна праводзяцца ператрусы і "шмоны", як прафілактычныя, так і знянацку ("па поўнай праграме").

## КАЛІ Б НЕ ДАПАМОГА СВАЯКОЎ…

Трапляюць у ВУАТ № 46 людзі па-розных прычынах. Кагосьці пераводзяць з выпраўленчых калоній у выпадку змякчэння рэжыму ўтрымання — калі прымаецца рашэнне замяніць пазбаўленне волі яе абмежаваннем. Іншыя адразу апынаюцца тут па рашэнні суда.

Артыкулы, па якіх адбываюць тэрміны ў Круглянскай ВУАТ, таксама розныя. Ёсць асуджаныя за цяжкія цялесныя пашкоджанні, хуліганства і нават злачынствы ў сферы… высокіх тэхналогій (не здолелі нідзе ўладкавацца прыстойна, вось і пайшлі па злачынным шляху). Але, як адзначае газета "Сельскае жыццё", большасць зняволеных асуджаны згодна з артыкулам 205 — банальны і, на жаль, распаўсюджаны крадзёж чужой маёмасці.

Усе зняволеныя абавязаны выплачваць пэўную суму са свайго заробку ў даход дзяржавы і асобам, якім яны нанеслі шкоду. Таксама плацяць грошы і за пражыванне ў выпраўленчай установе. На асабістыя патрэбы сродкаў застаецца вельмі мала. Зняволеныя кажуць, што каб не дапамога сваякоў, то выжываць ім было б вельмі цяжка. Большасць зняволеных працуюць у Круглянскай ПМК № 266.

Супрацоўнікі выпраўленчай установы рэгулярна правяраюць асуджаных нават падчас знаходжання на працы, дзяжурная група пастаянна ездзіць па аб'ектах, дзе працуюць іх падапечныя. Калі зняволеныя ўчыняюць парушэнні, то іх караюць — для гэтага існуе штрафны ізалятар. Таксама парушальніка могуць вярнуць альбо накіраваць для далейшага адбыцця пакарання ў выпраўленчую калонію закрытага тыпу.

Асноўныя ж парушэнні, як няцяжка здагадацца (пры такім-та жыцці!) звязаны з ужываннем спіртных напіткаў.

**БАРЫС ВЫРВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 05.01.12
Тыраж 299 экзэмпляраў